ГРОДНА
№6 (558),
21 сакавіка 2021

# СЛОВА ЖЫЦЦЯ

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



## Кошык са свянцонкай. Што павінна ў ім быць




*Кожная з размешчаных у велікодным кошыку рэчаў мае ўласны сімвал і ўспрымаецца як Божы дар.*

на старонцы 2

## Сапоцкін




*Асобнай рымска-каталіцкай парафіі ў Сапоцкіне не было вельмі доўга.*

на старонцы 4

## У абароне жыцця




*Кожнае чалавечае жыццё з'яўляецца святым, таму заслугоўвае пашаны і абароны.*

на старонцы 7

# КРЫЖ ЁСЦЬ, АЛЕ СЭНСУ СМУТКАВАЦЬ НЯМА. ХРЫСТОС ПАКАЗАЎ НАМ РАДАСЦЬ!




*Вернікі ідуць у працэсіі Крыжовага шляху, Гродна, 2009 г.*

**Больш за 10 гадоў таму цэнтральнымі вуліцамі Гродна прайшоў Хрыстос, спыняючыся каля мясцовых славутасцей і менш значных забудоў. За ім следавала калона ўзрушаных вернікаў, якія час ад часу плакалі, назіраючы за акрываўленым Збаўцам.**

на старонцы 3

## ЯЎГЕНІЯ НАЙДОВІЧ: “МЫ ЯШЧЭ ІДЗЁМ ДА КУЛЬТУРЫ ФІНАНСАВАЙ АДКАЗНАСЦІ”

**“Радыё Марыя” – найбуйнейшае з каталіцкіх медыяў у Беларусі. Яго штодзённая аўдыторыя налічвае ад 500 да некалькіх тысяч слухачоў.**




на старонцы 6

СЛОВА РЭДАКТАРА

## *Дарагія Чытачы!*

*Можна абыякава прайсці міма крыжа. Асабліва калі не заўважаеш на ім Езуса. Так робяць мільёны людзей ва ўсім свеце. Аднак, калі ўбачыць пакутуючага Хрыста, крыж перастае быць абыякавым сімвалам, а становіцца люстэркам, у якім чалавек пачынае бачыць розныя вобразы.*

*Перш за ўсё, ён бачыць там уласнае адлюстраванне. Ад яго самога залежыць, наколькі падрабязна разглядае ўбачанае. Можа проста мазнуць вокам і, не робячы ніякіх высноў, спакойна пайсці далей. А можа ўважліва прыглядзецца, заўважыць, што добра, а што дрэнна. Можа парадавацца добраму і пачаць працаваць над выпраўленнем дрэннага альбо пагадзіцца на тое, каб яго кранула сумленне, і пачаць змяняць сваё жыццё да лепшага.*

*Гледзячы ў люстэрка, чалавек бачыць не толькі сябе. Ёсць там і вобразы іншых. Пад крыжам Хрыста альбо побач з ім апынуліся розныя людзі. Там былі Пілат, Юда, заплаканыя жанчыны, Сымон Кірынеец, добры і дрэнны злачынцы, сотнік, Пётр... Адны дазволілі, каб іх сумленне ўзварухнулася, іншыя захацелі заглушыць яго голас.*

*Мы набліжаемся да Вялікага тыдня, калі атрымаем асаблівую магчымасць глядзець на пакутуючага Езуса, разважаць пра Яго мукі і боль. Будзем таксама глядзець на тых людзей, вобразы якіх можна ўбачыць у люстэрку крыжа. Будзем прыглядацца да сябе. Няхай і ў нас, якія стаім пад крыжам, узварухнецца сумленне, каб з абноўленым сэрцам маглі праспяваць радаснае "Алелюя!".*



*кс. Jerzy Martinowicz*

КАЛЯНДАР

**21 сакавіка**

***V Нядзеля Вялікага посту.***

*У V Нядзелю Вялікага посту, згодна са старой традыцыяй, засланяем крыжы ў касцёлах, каб урачыста адкрыць іх падчас літургіі Мукі Пана ў Вялікую пятніцу. Закрыццё фігуры змучанага Хрыста павінна скіраваць вочы і сэрцы хрысціян, у першую чаргу, на тое, што на самой справе азначае Яго вобраз – Асобу, муку і смерць Збаўцы. Яно павінна паглыбіць і ўмацаваць асабістую сувязь з Укрыжаваным, паказваючы гісторыязбаўчы сэнс таго, што адбылося на Галгофе. Такі звычай мае не толькі сімвалічнае вымярэнне, але і духоўнае. Гэта напамін, што Бог памёр за нас. Гэта вялікая таямніца, якую мусім пастаянна нанова пазнаваць і даследаваць, а праз укрыты крыж – змяняць сябе.*

**25 сакавіка**

***Урачыстасць Звеставання Пана.***

*Урачыстасць Звеставання Пана традыцыйна адзначаецца ў Паўсюдным Касцёле роўна за 9 месяцаў да Божага Нараджэння – 25 сакавіка. Яна нагадвае пра тую вялікую падзею, з якой пачалася новая эра ў гісторыі чалавецтва – арханёл Габрыэль прыйшоў да Марыі, дзяўчыны з Назарэта, каб абвясціць, што на Ёй споўніцца абяцанні прарокаў, а Яе Сын, якога зачне цудоўным і цнатлівым чынам праз Святога Духа, будзе Сынам самога Бога. Урачыстасць, якая адзначаецца ў час Вялікага посту, ілюструе нам, што таямніца Уцелаўлення непарыўна звязана з таямніцай Смерці і Уваскрасення Хрыста.*

**26 сакавіка**

***Успамін св. Добрага Злачынцы.***

*Св. Дызмас – адзін з двух злачынцаў, павешаных на крыжы побач з Езусам. Інфармацыю пра яго перадае св. Лука ў сваім Евангеліі. Калі другі з укрыжаваных разам з Езусам злодзеяў абразіў Яго, Дызмас папракнуў таго, сказаўшы, што яны справядліва паміраюць за свае злачынствы, а Езус нічога дрэннага не зрабіў. Ён звярнуўся да Хрыста, просячы ўспомніць пра яго, калі прыйдзе ў сваё валадарства. А Езус паабяцаў Добраму Злачынцу – так мы з таго часу яго называем, – што сёння будзе з Ім у раі. Гэта быў першы своеасаблівы акт кананізацыі, які Хрыстос здзейсніў на Крыжы.*

**28 сакавіка**

***Пальмовая Нядзеля, ці Мукі Пана.***

*VI Нядзеля Вялікага посту называецца Пальмівай, або Нядзеляй Мукі Пана, і пачынае святкаванне Вялікага тыдня. Літургія Касцёла адзначае ў гэты дзень урачысты ўваход Пана Езуса ў Іерусалім, пра які згадваюць усе чатыры евангелісты (параўн. Мц 21, 1–10; Мк 11, 1–11; Лк 19, 29–40; Ян 12, 12–19), а таксама разважае Яго Муку. Гэтая нядзеля, калі ў нашых святынях адбываецца блаславенне пальм, усё глыбей уводзіць нас у настрой Велікодных свят.*

# КОШЫК СА СВЯНЦОНКАЙ. ШТО ПАВІННА Ў ІМ БЫЦЬ

*працяг са с. 1*

**Набліжаецца Вялікая субота. У гэты дзень у нашых святынях традыцыйна асвячаем стравы, якімі ў каталіцкіх сем'ях распачынаецца ўрачысты сняданак пасхальнай раніцай. Кожная з размешчаных у велікодным кошыку рэчаў мае ўласны сімвал. Усе элементы свянцонкі ўспрымаюцца як Божыя дары і павінны прыгадваць пра важныя матэрыі, патрэбныя, каб плённа разважаць Муку і Уваскрасенне Хрыста.**



gazetawroclawska.pl

**ЯГНЯ З ХАРУГВАЙ**

Знак уваскрослага Хрыста. На харугве змешчаны крыж і надпіс "Алелюя", які выражае радасць ад перамогі Жыцця над смерцю і пераадолення граху. Сімволіка ягняці мае глыбокія біблійныя карані. У Старым Запавеце гэта ўцёкі яўрэяў з Егіпта, калі ізраільцяне пазначалі дзверы сваіх дамоў кроўю спажытага ягняці (параўн. Зых 11–12), а таксама характарыстыка Слугі Яхвэ ў прарока Ісаі (параўн. Іс 53).

У Новым Запавеце – момант, калі Хрыстос быў названы Баранкам Божым (параўн. Ян 1, 29), пасля чаго ў Вялікую пятніцу Ён збавіў людзей цаной уласнай крыві (параўн. Ян 19). Велікоднае ягня з'яўляецца таксама сімвалам паслухмянасці, нявіннасці і ахвяры.

**ЯЙКА**

Старажытны сімвал новага жыцця. У міфалогіі яйка звязана з 4-ма стыхіямі: шкарлупіна – зямля, абалонка – паветра, жаўток – агонь, а бялок – вада. Яно з'яўляецца знакам пачатку жыцця і адраджэння. Падобна як велікоднае ягня, сімвалізуе трыумф Жыцця над смерцю. Успрымаецца таксама як метафара ўтоенага жыцця і сілы існавання. Некалі яек не спажывалі на працягу ўсяго Вялікага посту, і яны вярталіся на сталы толькі на Вялікдзень. Дзяленне асвечаным яйкам мае братэрскі характар і служыць умацаванню сямейных сувязей.

**СОЛЬ**

Напамін наказу Хрыста аб тым, што мы як Яго вучні павінны быць "соллю зямлі" (параўн. Мц 5, 13–16). Гэты жыццядайны мінерал спадарожнічае чалавеку са спрадвечных часоў. Надае стравам смак, а дзякуючы кансервацыйным уласцівасцям, захоўвае іх ад псавання. З'яўляецца сімвалам жыцця, самой сутнасці існавання, маральных і духоўных сіл, ачышчэння і праўды.

**ВЯНДЛІНА**

Сімвал ягняці, якое ізраільцяне забівалі, каб адзначыць свята Пасхі. У мінулым, калі мяса спажывалі час ад часу, таму што было дарагім, яно лічылася знакам дастатку. У кошык са свянцонкай укладаем звычайна кавалак шынкі ці каўбасу.

**ХЛЕБ**

Памятка размнажэння хлеба ў пустыні, якім Езус накарміў сваіх слухачоў. Сімвалізуе спажытак для душы, г. зн. Цела Хрыста, які сказаў аб сабе: "Я – хлеб жыцця. Хто прыходзіць да Мяне, не будзе галодны..." (Ян 6, 35) – і штодзённую ежу для цела, неабходную для жыцця, што знайшло адлюстраванне ў малітве "Ойча наш" (параўн. Мц 6, 11). Хлеб таксама з'яўляецца знакам Пераісточання, здзейсненага ў прысутнасці апосталаў у вячэрніку. Выражае жаданне прыняцця св. Камуніі. У той жа час хлеб – гэта сімвал поспеху, дастатку і сытасці. Для асвячэння дастаткова адрэзаць толькі кавалак, які пазней спажывём падчас велікоднага сняданку.

**ПЕЧЫВА**

Знак майстэрства, таму лепш за ўсё, калі гэта хатняя выпечка – выраз нашых уменняў. Печыва – таксама сімвал неаформленай матэрыі,ператворанай у дасканалую форму. Яго салодкасць з'яўляецца ўзнагародай за трываласць у самаўтаймоўванні падчас Вялікага посту і звеставаннем Нябеснага Валадарства: "Пакаштуйце, які добры ёсць Пан" (Пс 34, 9).

**СЫР**

Знак сувязі паміж чалавекам і прыродай. Заахвочвае да ўдзячнасці за спажытак, атрыманы ад жывёл, і да пашаны да іх.

**ХРЭН**

Сімвал горычы Мукі Пана – з-за вострага смаку і здольнасці выклікаць слёзы. Азначае фізічную моц, чалавечыя сілы і жыццяздольнасць.

***Сярод элементаў свянцонкі могуць таксама быць іншыя (розніцы вынікаюць з рэгіянальных традыцый):***

**вада** – сімвал Святога Духа;
**перац** – сімвал горкіх зёл;
**зайчык** – сімвал пладавітасці і адраджэння прыроды;
**куранятка** – сімвал новага жыцця *(некалі казалі, што Хрыстос устаў з магілы, "як кураня з яйка")*.

# КРЫЖ ЁСЦЬ, АЛЕ СЭНСУ СМУТКАВАЦЬ НЯМА. ХРЫСТОС ПАКАЗАЎ НАМ РАДАСЦЬ!




працяг са с. 1

**У 2009 годзе ў горадзе над Нёманам упершыню зладзілі тэатралізаваны Крыжовы шлях, галоўную ролю ў якім сыграў тады яшчэ школьнік, а цяпер вядомы ва ўсёй Беларусі Instragram-блогер Фёдар Астаповіч.**

*Ангеліна Марцішэўская*

### КАЛІ НАСЛЕДАВАЦЬ, ТО ПА МАКСІМУМУ

Касцюміраванае шэсце арганізаваў парафіяльны тэатр імя св. Яна Паўла (парафія Найсвяцейшага Адкупіцеля ў Гродне). Акцёры адлюстроўвалі біблійны эпізод кожнай з 14-ці стацый: былі разважанні, апранутыя ў чорнае і з пафарбаванымі ў чорны вачыма салдаты, крыж і Езус.

***“Думаю, на ролю Хрыста мяне абралі таму, што ў той час я насіў доўгія валасы, што дадавала знешняга падабенства з Езусам. Мне зрабілі «крывавы» грым, надзелі робу, насцегнавую павязку і вянок. Апошні, дарэчы, быў сапраўдным, з церня. Я нават спецыяльна не абразаў іголкі на ім, каб хоць крыху адчуць тое, што перажываў Збаўца. Драўляны крыж для інсцэніроўскі мы з бацькам зрабілі самі. Між іншым, па прафесіі ён цясляр, і завуць яго Юзаф”,*** – адзначае з задуменнем Фёдар.

Да ўдзелу ў шэсці хлопец ставіўся з трапятаннем. Акрамя рэпетыцый, пачаў пасціцца за некалькі дзён да Крыжовага шляху і шмат маліўся. Падаецца, малітвы прынеслі свой плён. ***“Добра ўзгадваецца адна сімвалічная сітуацыя. Калі мы перайшлі на плошчу Савецкую, нам насустрач з аднаго з двароў выйшаў п’яны ўшчэнт мужык. Я ішоў наперадзе калоны, і, заўвыжыўшы мяне, усяго ў «крыві» ды з крыжам на плячах, мужык аслупянеў, а пасля рынуўся да мяне са словамі: «Дружа, ты чаго?! Давай я табе дапамагу!». Да яго падышлі арганізатары, запэўніўшы, што ўсё ў парадку, а гэта інсцэніроўка пакут Хрыста. Памятаю, я адразу накіраваўся да наступнай стацыі, бо трэба было працягваць прадстаўленне, але чамусьці застаўся пры меркаванні, што гарэлку ў рот мужчына больш не браў…”.***



*За брутальнай знешнасцю мяккае сэрца*

### ХРЫСТОС, РАСПЯТЫ НА ЛІХТАРНЫМ СЛУПЕ

Акрамя таго, што сёння Фёдар з’яўляецца паспяховым блогерам, ён працуе фельчарам у хуткай дапамозе, дзе заўсёды сутыкаецца з болем і крыжам бліжняга. Аднак, каб адкрыць сваё медыцынскае пакліканне, хлопцу неаднаразова прыходзілася пачынаць усё спачатку, нягледзячы на асуджэнне ад людзей навокал. Фёдар скончыў курсы повара, затым уступіў у кляштар айцоў рэдэмптарыстаў, але, не давучыўшыся, вырашыў далучыцца да Ордэна Меншых Братоў Капуцынаў. І менавіта сярод капуцынаў, у харызму якіх упісаны клопат пра немачных, Фёдар распазнаў, што хоча дапамагаць хворым.

***“Падчас фармацыі мы часта наведвалі хоспісы, а ў вольны час мяне цягнула ў дом састарэлых, даглядаць бабуль і дзядуль. Памятаю адтуль пэўную жанчыну, якая перажыла Асвенцім. У яе на тумбачцы стаяў абразок з выявай Хрыста, распятага на крыжы ў выглядзе лагернага ліхтарнага слупа, з вянком з калючага дроту і ў насцегнавай павязцы з робы зняволенага з адпаведным нумарам. Бабуля шмат распавядала пра той час. Калі была падлеткам, нацыстам яе здала суседка. Трапіўшы ў Асвенцім, дзяўчына перажыла там усе жахі, якімі поўніцца гісторыя канцэнтрацыйных лагераў. Аднойчы, калі атрымала траўму, яе павінны былі перавесці ў іншае месца, а падчас транспарціроўкі як раз пачаўся абстрэл з боку савецкіх салдат. Падчас мітусні дзяўчыне цудам удалося ўцячы, і яна вярнулася дадому. Пастукаўшыся, у адчыненых дзвярах убачыла сваю маці, але тая не пазнала дачку і сказала: «У нас няма паесці, сыходзьце»”.***

У скарбонцы Фёдара гэтая гісторыя стала адной з першых, што адлюстроўваюць Крыжовы шлях чалавека. Пакінуўшы кляштар і стаўшы медыцынскім супрацоўнікам, хлопец сустрэў шмат пакутуючых, працягваючы рэалізаваць заклік св. Францішка з Асізі “радасна прабываць сярод хворых”. ***“Мы часта выязджаем на выклікі да анкахворых, каб увесці ім дозу абязбольваючага. І я заўсёды імкнуся пагаварыць з імі, данесці, што пакуты маюць сэнс, бо могуць прыпадобніць да Хрыста, стаць шляхам да зразумення сапраўднай, вечнай радасці і быць адкупленнем у адносінах да грахоў іншых людзей. Зразумела, растлумачыць падобнае чалавеку ў цярпенні вельмі складана, таму заўсёды малюся, каб Езус прамаўляў праз мяне. Здараецца, словы трапляюць у самае сэрца, і тады разумею: Хрыстос дзейнічае побач са мной. І ведаеце, заўважыў, што той, хто здольны ўсвядоміць і прыняць свой Крыжовы шлях у пазітыўным ключы, здольны таксама захаваць радасць і нават супрацьстаяць хваробе”,*** – дзеліцца фельчар.

Фёдар часта сутыкаецца і з тымі, хто здзейсніў спробу самагубства. Са слоў медыка, часцей за ўсё, гэта людзі, якім проста не хапае любові – бацькоўскай ці партнёрскай. Сваім адчайным жэстам яны хочуць прыцягнуць увагу людзей побач.

**У 2015 годзе Фёдар Астаповіч распачаў працу фельчарам у гродзенскай БХМД. Праз год стварыў акаунт у Instagram, у якім пачаў дзяліцца цікавымі момантамі са сваёй службы і думкамі адносна таго, што адбываецца падчас яго працы. Трапны погляд на рэчы стаў паступова прыцягваць падпісчыкаў, і, як прызнаецца сам хлопец, сёння яго ўжо пазнаюць мінакі на вуліцах.**

***“Кожны раз з няўдалымі суіцыднікамі я размаўляю вельмі жорстка, але ў гэтым праяўляецца мая міласэрнасць. Разумею крыж чалавека, але хачу яго страсянуць і паказаць, што ў жыцці ёсць шмат таго, чаму можна радавацца,*** – разважае Фёдар. – ***Назіраючы за людзьмі, я зразумеў, што кожны мае ўласную цярністую сцежку. У чым мой Крыжовы шлях – пакуль не ўсвядоміў да канца. Магчыма, у тым, што працую ў гэтым «балоце» – складаных і напружаных умовах за жабрацкую зарплату. Аднак упэўнены: у гэтым ёсць Божы Провід. Я на сваім месцы, бо адчуваю ўнутраны супакой і добра выконваю свае абавязкі. Калі чалавек займаецца тым, што яму накавана, ён справіцца з любымі абставінамі. Калі зразумее сэнс свайго крыжа – усё выраўняецца”.***

### ФЕЛЬЧАР ЦІ БЛОГЕР – ТРЫМАЦЬ АДКАЗНАСЦЬ ЗА СВАЕ СЛОВЫ

У жыцці Фёдар прадстае амаль такім, як у сваім Instagram-акаунце: стылёвы, з мноствам тату і пірсінга, смачным слэнгам і бранзалетам “Go *(ідзі – англ.)* тварыць дабро”. Адрозніваецца толькі крыху зморанымі вачыма. Ды як тут без стомленасці, калі рабіць дабро ў любых акалічнасцях – гэта вымотвае, а часам нават пагражае наступствамі. Хрыста за годныя ўчынкі адправілі на Крыжовы шлях. Аднак ва ўсіх публікацыях Фёдара чытаецца настойлівы заклік любіць адзін аднаго і не чыніць узаемнай шкоды. ***“Мой акаунт налічвае цяпер 14 200 падпісчыкаў, і мы з імі разам знаходзімся ў школе жыцця, разам вучымся: я дзялюся сваім досведам і парадамі, а яны на гэта рэагуюць. І калі аўдыторыя расце, значыць кожны з іх выносіць штосьці карыснае з маіх публікацый. Неаднаразова здаралася, што знаёмы святар пытаўся, ці можа зачытаць мой пост або падзяліцца пэўным прыкладам з майго жыцця падчас пропаведзі. І я лічу, калі мае словы знаходзяць водгук і сярод духавенства, я напэўна штосьці раблю правільна”,*** – упэўнены Фёдар.

Зрэдку здараецца, што з-за нефармальнага выгляду хлопец сустракае незразуменне, але гэта хутчэй выключэнне. Святло, што ідзе знутры – пераконвае. ***“Сярод каталіцкай супольнасці паглядзець з асуджэннем могуць толькі скрайне кансерватыўныя людзі. Іншыя глядзяць глыбей, і гэта правільна, гэта па-хрысціянску”,*** – дадае хлопец.

З узрастаннем папулярнасці ў Instagram, адпаведна пачаў узрастаць і паказчык дабрачыннасці ўладальніка акаунта. Стала крыху прасцей ладзіць розныя акцыі падтрымкі. ***“Часам здараюцца такія сітуацыі, што нельга ў чарговы раз не пераканацца ў тым, што Бог побач. Апошнім разам наткнуўся на аб’яву, што «Цэнтр дапамогі жыццю»*** *(арганізацыя, якая клапоціцца пра пацыентаў хоспіса – заўв. аўт.)* ***збірае падарункі для сваіх падапечных. Я кінуў кліч у Instagram, і, зразумела, адразу адгукнуліся людзі, якія гатовы былі дапамагчы і ахвяраваннямі, і патрэбнымі рэчамі. Маючы на руках апошнія з нявыдадзеных грошай, паехаў у магазін, каб набыць тэрмакубкі. Адметна, што маёй сумы да апошняй капейкі хапіла на 10 штук. Ужо спазняючыся, прывёз іх валанцёрам «Цэнтра». Якім жа было і маё, і іх здзіўленне, калі аказалася, што ім не хапала менавіта 10-ці тэрмакубкаў, каб кожны з пацыенаў атрымаў па поўным наборы падарункаў. Як жа тут не верыць, што Найвышэйшы Бог клапоціцца пра нас не толькі ў маштабных, але і ў самых дробных рэчах,*** – разважае Фёдар. – ***Тое самае і адносна майго ўласнага жыцця. Напрыклад, праца не дазваляе мне зарабіць столькі, каб абзавесціся нейкай маёмасцю, але я ніколі не адчуваў ніякай нястачы. Арымліваю асалоду ад сваёй працы, з пакорай прымаючы шматлікія мінусы ў медслужбе. І адчуваю, што Бог чувае. Ні разу ў жыцці мне не прыйшло ў галаву змяніць працу на больш прыбытковую, хоць гэта цалкам у маіх магчымасцях. І што я зразумеў пра сутнасць жыцця – яна ў тым, каб асэнсаваць свой шлях, асэнсаваць свой крыж, любіць і не рабіць дрэннага”.***

## АКТУАЛЬНА

*Ватыканскае радыё*

### Пасля візіту Папы Ірак увядзе Дзень талерантнасці і суіснавання

Нацыянальны дзень талерантнасці і суіснавання будзе адзначацца штогод 6 сакавіка ў памяць аб “гістарычнай сустрэчы” папы Францішка з шыіцкім аятолай Алі Аль-Сістані.

Аб гэтым заявіў прэм’ер-міністр Мустафа Аль-Касімі. Кіраўнік іракскага ўрада таксама звярнуў увагу на важнасць міжрэлігійнай сустрэчы ў Ур, у якой прынялі ўдзел Святы Айцец і прадстаўнікі рэлігій.

Пантыфік наведаў Аль-Сістані, аднаго з самых высокіх прадстаўнікоў шыіцкага ісламу. Гэта была першая сустрэча лідараў дзвюх рэлігійных супольнасцей. Пасля завяршэння візіту папа Францішак сустрэўся з прадстаўнікамі рэлігій, якія прысутнічаюць у Іраку, і звярнуўся да іх з просьбай аб агульных намаганнях на карысць міру.

### Ватыканскі дыпламат у ААН: рэлігійная свабода – паўсюднае права

Паважаць і абараняць рэлігійную свабоду як вымярэнне чалавечай годнасці заклікаў Пастаянны назіральнік Апостальскай Сталіцы пры ААН і іншых міжнародных арганізацыях у Жэневе.

Ватыканскі дыпламат падкрэсліў, што ўсе акты нянавісці, дыскрымінацыі і пераследу ў адносінах да вызнаўцаў ісламу павінны быць асуджаны. У той жа час ён заўважыў, што ў сучасным свеце пераследу падвяргаюцца не толькі мусульмане. Па гэтай прычыне ў дакуменце належала б звярнуць увагу таксама на сітуацыю асоб іншых веравызнанняў.

Прадстаўнік Святога Пасаду выказаў глыбокую занепакоенасць у сувязі з тым, што ў справаздачы, мэта якой заключаецца ў садзейнічанні абароне “фундаментальнага права чалавека і паўсюднай свабоды рэлігіі і веравызнання”, на самой справе ўвага была засяроджана “на адной рэлігійнай групе, выключаючы іншыя, з рызыкай палярызацыі міжнароднай супольнасці і стварэння яшчэ большых канфліктаў”.

### Спецыяльнае адкрыццё Турынскай плашчаніцы адбудзецца ў Вялікую суботу

Як паведамляе арцыбіскуп Турынскі Чэзарэ Назілья, у Вялікую суботу, 3 красавіка 2021 года, адбудзецца спецыяльнае адкрыццё Турынскай плашчаніцы.

Набажэнства будзе транслiравацца ў СМІ дзякуючы супрацоўніцтву з Дыкастэрыяй па камунікацыі Святога Пасаду. Малітву ў Вялікую суботу ўзначаляць маладыя людзі з Турына, якія ўдзельнічалі ў падрыхтоўцы да Еўрапейскай сустрэчы Тэзэ.

### Малітоўныя інтэнцыі на красавік

**паўсюдная**

Молімся за асоб, якія падвяргаюць сваё жыццё небяспецы, змагаючыся за асноўныя правы ў дыктатурах, аўтарытарных рэжымах і нават у дэмакратыях, якія перажываюць крызіс.

**дыяцэзіяльная**

Молімся, каб Пан блаславіў земляробаў нашай дыяцэзіі і абараніў нас ад голаду.

# ФРАГМЕНТ ПАСТЫРСКАГА ЛІСТА КАНФЕРЭНЦЫІ КАТАЛІЦКІХ БІСКУПАЎ БЕЛАРУСІ НА ДЗЕНЬ СВЯТАСЦІ ЖЫЦЦЯ 2021 ГОДА

*Каталіцкія Біскупы Беларусі*



[…] Літургія ўводзіць нас у глыбіню сэрца Марыі, у якім скрыты перажыванні, звязаныя з анёльскім звеставаннем. Прамоўленае Ёю “fiat” пацвярджае гатоўнасць чалавека прыняць абяцанне Бога, звязанае з Новым Запаветам, аб’яўленым і пацверджаным прыйсцем Езуса Хрыста ў свет, каб такім чынам чалавек мог пазнаць Бога.

У перажыванні таямніцы Уцелаўлення Марыя не адна. “Так, як Бог учыніў гэта з Марыяй, калі аб’явіў Ёй свой план збаўлення, аб’явіў свае планы і Юзафу. Гэта менавіта ён, св. Юзаф, у любых абставінах жыцця змог вымавіць сваё «fiat», як Марыя падчас Звеставання і Езус у Гефсіманскім садзе” (Patris corde, 3). […] У год, калі мы адзначаем 150-ю гадавіну абвяшчэння св. Юзафа Апекуном Паўсюднага Касцёла, Святы Айцец Францішак заахвочвае нас нанова адкрыць яго ролю ў выкананні абяцання Бога пра заключэнне Новага Запавету […].

Такім чынам, можам смела сцвердзіць, што заключэнне Новага Запавету з чалавекам залежала ад паводзін Марыі, але ў такой жа ступені і ад св. Юзафа. Сталася так, што Бог даверыўся гэтаму чалавеку, падобна, зрэшты, і Марыя, якая “знайшла ў Юзафе таго, хто не толькі хоча выратаваць Яе жыццё, але таго, хто заўсёды будзе клапаціцца пра Яе і Дзіця” (Patris corde, 5).

[…] У бліжэйшы чацвер, ва ўрачыстасць Звеставання Пана, мы ў чарговы раз будзем адзначаць Сусветны дзень святасці жыцця. Перажываючы гэтую таямніцу, усведамляем, што наш абавязак – абараняць жыццё ад яго зачацця да натуральнай смерці. Здзяйсняем гэта па-рознаму, далучаючыся да разнастайных акцый, якія сведчаць пра каштоўнасць чалавечага жыцця. Адной з такіх ініцыятыў Каталіцкага Касцёла з’яўляецца “Духоўнае ўсынаўленне”: малітва ў інтэнцыі ненароджаных дзяцей, жыццё якіх знаходзіцца ў небяспецы, і за іх бацькоў […].

Сёння, калі мы вучымся ў св. Юзафа клопату і адказнасці за жыццё, заахвочваем да гэтай малітвы святароў, касэкраваных асоб, вернікаў Касцёла і ўсіх людзей добрай волі. “Падобна таму, як Бог сказаў нашаму святому: «Сыне Давіда, не бойся!» (Мц 1, 20), Ён, здаецца, паўтарае і нам: «Не бойцеся!»” (Patris corde, 4). Прыміце на сябе адказнасць за жыццё чалавека, бо «кожны раз, калі хтосьці прымае адказнасць за жыццё іншага чалавека, ён у пэўным сэнсе становіцца бацькам гэтага чалавека» (Patris corde, 7).

На трывалую малітву і дзейнасць у абарону жыцця чалавека, якое знаходзіцца ў небяспецы, у год св. Юзафа ад усяго сэрца Вас благаслаўляем.

## ПАЎСЮДНЫ КАСЦЁЛ

**ПОЛЬШЧА.** “Карытас” Познанскай архідыяцэзіі рыхтуе велікодны сняданак для 800 бедных, патрабуючых, бяздомных і адзінокіх. З-за трываючай пандэміі каранавіруса ў нядзелю Уваскрасення Пана не атрымаецца сесці за супольны стол, таму традыцыйныя велікодныя стравы будуць выдавацца навынас. У сталовай “Карытас”, якую вядуць сёстры альжбетанкі, будуць раздавацца харчовыя пакеты. Кожны патрабуючы атрымае навынас журэк, белую каўбасу, паштэт, салат, яйкі і дадаткова святочны пакунак.

**ІСПАНІЯ.** Канферэнцыя біскупаў Іспаніі выдала дакумент для парафій аб арганізацыі святкавання Вялікага тыдня ў краіне. У ім змешчаны заклік адмовіцца ад арганізацыі пасійных працэсій. Біскупы, спасылаючыся на рэкамендацыі медыцынскіх служб, указалі, што на тэрыторыі Іспаніі па-ранейшаму высокая рызыка заражэння каранавірусам. Яны падкрэслілі, што змяненне ў правядзенні літургіі Вялікага тыдня “вынікае з выключных абставін” і служыць “агульнаму дабру”. Іспанія – адна з найбольш пацярпелых ад Covid-19 краін у свеце. Да гэтага часу там у выніку гэтай хваробы памерлі 71,4 тысячы чалавек, а інфіцыраваны каранавірусам больш за 3,16 мільёнаў чалавек.

**ІТАЛІЯ.** Фрэска з выявай Марыі з маскай і сцягам Італіі была створана каля базілікі ў горадзе Мота ў правінцыі Трэвіза. Мадонна з Моты на фрэсцы ўпісана ў трохкаляровы італьянскі сцяг, а рукамі ахінае будынак муніцыпалітэта – свецкі сімвал горада – і базіліку Яе імя, якая вядома ў свеце і з’яўляецца мэтай многіх паломніцтваў. Фрэска была прысвечана Панне Марыі. Гэта насценны жывапіс вядомага мастака street-art Мануэля Джакамеці з Трэвіза. У адной руцэ Мадонна трымае бронзавы медаль, які горад атрымаў за адвагу, а ў другой – медыцынскую маску, сімвал актуальнай праблемы, з якой змагаецца грамадства.

**РАСІЯ.** Рускі пераклад энцыклікі “Fratelli tutti” (“Усе браты”) дае новы імпульс міжрэлігійнаму дыялогу ў Расіі. У культурным цэнтры “Пакроўскія вароты” прайшла прэзентацыя першага рускамоўнага перакладу энцыклікі папы Францішка “Fratelli tutti”, прысвечанай усеагульнаму братэрству і сацыяльнай дружбе. У ёй прынялі ўдзел прадстаўнікі хрысціянскіх канфесій, члены Міжнароднага мусульманскага форуму, Федэрацыі габрэйскіх абшчын Расіі, Федэральнага Сходу Расійскай Федэрацыі і іншых рэлігійных і дзяржаўных структур.

*Падрыхтавана на падставе інтэрнэт-крыніц.*

# САПОЦКІН

*працяг са с. 1*

*Андрэй Вашкевіч*

Датай заснавання мястэчка прынята лічыць 10 ліпеня 1519 года, калі кароль польскі і вялікі князь літоўскі Жыгімонт Аўгуст даў баярыну Сапотку Стэцковічу прывілей на валоданне зямлёй Раманаўшчына ў Гродзенскім павеце. А ў дакументах 1550–1560-ых гадоў ужо згадваецца дарога “з Городна до местечка Сопоткин”.

У тыя часы большасць насельніцтва Сапоцкіна складалі праваслаўныя, пасля ўніяты, хаця і рымскія католікі сярод жыхароў былі вельмі заўважныя. Асобнай рымска-каталіцкай парафіі ў Сапоцкіне не было вельмі доўга, мястэчка і ваколіцы складалі заходнюю частку парафіі ў Гожы. Але парафіяльны касцёл быў вельмі далёка, ды яшчэ і за Нёманам, таму ў сярэдзіне XVIII стагоддзя ў Сапоцкіне існавала алтарыя, магчыма, з невялікай філіяльнай капліцай, аднак ніякіх звестак пра яе месцазнаходжанне няма.

Як вынікае з інвентара Сапоцкіна 1704 года, адзінай хрысціянскай культавай пабудовай у мястэчку была ўніяцкая царква. Узнікненне першай рымска-каталіцкай парафіі звязана з дзейнасцю мясцовых землеўладальнікаў Антонія і Тэафіліі Валовічаў. Спачатку недалёка ад Сапоцкіна ў мясцовасці Ясудава яны стварылі новае мястэчка – Тэалін, названае ў гонар Тэафіліі Валовіч. 6 сакавіка 1789 года землеўладальнікі ўфундавалі ў Тэаліне рымска-каталіцкі касцёл. Дэкрэт аб стварэнні новай парафіі выдаў віленскі арцыбіскуп Ігнацый Масальскі. Рыма-каталікі Сапоцкіна павінны былі наведваць касцёл у новым мястэчку – Тэаліне, а грэка-каталікі хадзіць у сапоцкінскую ўніяцкую царкву. Аднак Тэаліну як асобнаму мястэчку не пашанцавала. З падзеламі Рэчы Паспалітай і ўваходам Сапоцкінскага краю спачатку ў склад Прусіі, а пасля Герцагства Варшаўскага, а таксама з вызваленнем сялян ад прыгону эпоха прыватнаўласніцкіх мястэчак скончылася. Тэалін хутка стаў прадмесцем Сапоцкіна, а назва “Тэалінскі” засталася толькі ў назве парафіі і адной з вуліц мястэчка.

Да цяперашняга дня не да канца высветлена пытанне аб даце пабудовы касцёла. Вядома, што ў сярэдзіне XIX стагоддзя ён ужо існаваў. Калі сыходзіць з архітэктурных асаблівасцей, святыня была пабудавана ўжо, хутчэй за ўсё, у самым пачатку 1800-ых гадоў.

У XIX стагоддзі парафія ў Тэаліне была дастаткова вялікай і ўключала мястэчка Сапоцкін, 18 двароў і фальваркаў, а таксама 58 вёсак. У 1875 годзе царскія ўлады прымусам перавялі мясцовае ўніяцкае насельніцтва ў праваслаўе, а праз два гады і рымска-каталіцкая парафія ў Тэаліне была закрыта па прычыне “шкоднага ўплыву на навадалучаных да праваслаўя былых уніятаў”. З 1877 па 1885 год святыня была філіяй парафіяльнага касцёла ў Селіванаўцах, пасля чаго расійскія ўлады закрылі яе канчаткова, а ў 1890 годзе перадалі маёмасць касцёла праваслаўнаму ведамству.

Рашэннем Сінода ад верасня 1893 года, з місіянерскай мэтай прывядзення былых уніятаў на лона Праваслаўнай Царквы, у Тэаліне каля Сапоцкіна быў утвораны праваслаўны Тэалінскі Свята-Прэабражэнскі манастыр. Яго ўладкаваннем занялася ігумення Ляснянскага манастыра Сядлецкай губерніі Людміла. Касцёл быў моцна перароблены ў праваслаўным стылі (узведзены іканастас, хоры, іншы выгляд набыла званіца). З’явілася некалькі новых будынкаў. У кастрычніку 1894 года манастыр быў асвечаны архіепіскапам Холмска-Варшаўскім Флавіянам.

У 1908 годзе ў манастыры было два храмы: Праабражэння Гасподняга (былы рымска-каталіцкі касцёл у Тэаліне) і трапезны ў гонар Пакрова Багародзіцы, пабудаваны ў 1898 годзе. Цікавасць да жыцця манастыра праяўлялі і вядомыя ў Расійскай Імперыі асобы. У верасні 1900 года яго наведаў протаіерэй Іаан Сергіеў, які ўвайшоў у гісторыю як св. Іаан Кранштацкі. Манастыр фактычна жыў за кошт ахвяраванняў айца Іаана, які ў папярэднія гады існавання ахвяраваў на яго 50 тысяч рублёў. Манахіні купілі за гэтыя грошы фальварак Юзафатава, працавалі на ім і кармілі дзяўчынак з прытулку.

Пасля царскага ўказа аб рэлігійнай талерантнасці рымска-каталіцкая парафія ў Тэаліне была адноўлена,


А. Вашкевіч

*Хрышчоная гара – месца каля Сапоцкіна, дзе патаемна маліліся былыя ўніяты і рыма-каталікі ў канцы XIX ст., калі ў Сапоцкіне не было ніводнай каталіцкай святыні*

аднак у былым будынку касцёла усё яшчэ знаходзіўся праваслаўны манастыр. Таму мясцовы землеўласнік Пётр Гурскі дабіўся дазволу ад сувалкаўскага губернатара на пабудову драўлянай святыні і выдзяліў будаўнічы матэрыял. Ужо ў 1907 годзе паўстаў касцёл св. Язафата.

Амаль адразу пасля распачацця I Сусветнай вайны, у пачатку 1914 года, жаночы манастыр выселіўся з Тэаліна ў Гродна.

У жніўні 1916 года вызваленаму храму быў вернуты статус касцёла, а драўляны будынак разабралі і перадалі католікам у вёску Паўлаўка, якая цяпер знаходзіцца на тэрыторыі Польшчы. У савецкія часы парафіяне цягам некалькіх дзесяцігоддзяў самастойна баранілі касцёл і сваю веру. На працягу апошніх гадоў Тэалінская рымска-каталіцкая парафія афіцыйна пачала называцца парафіяй у Сапоцкіне.

# ДОБРАЯ ВЕЛІКОДНАЯ СПОВЕДЗЬ

*Кс. Тадэвуш Крыштопік*

### ВЯЛІКІ ПОСТ – ЧАС ПЕРАМЕНЫ І НАВЯРТАННЯ

Усе набажэнствы Вялікага посту схіляюць нас правесці рэвізію жыцця і стаць у праўдзе перад Богам. Добрая велікодная споведзь як плён роздуму і малітвы адкрывае нашы душы на ласку Святога Духа, што выплывае з таямніцы Уваскрасення Езуса, і на велікодную радасць.

Прызнанне грахоў перад святаром як збаўчае абвінавачванне самога сябе – гэта важны элемент сакраманту пакаяння і паяднання. Споведзь з'яўляецца свайго роду вызнаннем – ушанаваннем Божай святасці і Яго міласэрнасці да грэшнага чалавека. Добрая споведзь прыносіць душы жаданы спакой, які выцякае з усведамлення паяднання з Богам і атрымання жаданага прабачэння. Такі супакой напоўніў сэрца Марыі Магдалены, калі пачула словы Езуса: "Даруюцца ёй грахі многія за тое, што яна вельмі палюбіла" (Лк 7, 47).

### ЦІ МОЖА БЫЦЬ СПОВЕДЗЬ ДОБРАЙ АБО ДРЭННАЙ?

Каб споведзь была добрай, яе трэба выканаць такім чынам, каб спадабалася Богу, была прынята Ім і вярнула нас да стану асвячальнай ласкі. Ілюстрацыяй добрай споведзі можа быць сапраўднае прымірэнне паміж людзьмі, якія пасварыліся, і вяртанне да шчырых адносін пасля канфлікту. Паяднанне людзей прадугледжвае разважанне, прызнанне сваёй памылкі, шчырую просьбу прабачыць і гатоўнасць пазбягаць таго, што крыўдзіць і адштурхоўвае іншага чалавека ад нас. Узаемнае прабачэнне павінна быць прынята. Спроба прымірэння, пазбаўленая гэтых элементаў, якая, акрамя таго, змяшчае ўзаемныя абвінавачванні, пацярпела б няўдачу, магла б паглыбіць канфлікт і яшчэ больш нашкодзіць далейшым адносінам. Такую спробу прымірэння трэба было б назваць дрэннай.

Што тычыцца нашых адносін з Богам, мы добра ведаем, што



Ён святы і бязгрэшны, што Яму няма за што прасіць у нас прабачэння, у той час як мы недасканалыя і слабыя, і нам заўсёды ёсць за што перапрасіць Бога. Шчырасць і адкрытасць з боку Усемагутнага вечна актуальная, таму нам трэба толькі паклапаціцца пра тое, каб з нашага боку было разважанне, шчырае прызнанне сваіх памылак, шчырая просьба прабачыць і жаданне пазбягаць таго, што крыўдзіць Бога і аддаляе нас ад Яго. Тады споведзь будзе добрай. А зробленая бяздушна, без роздуму, без усведамлення і сумленнага прызнання сваіх грахоў, няшчырая споведзь без імкнення больш не крыўдзіць Бога ў будучыні – яшчэ мацней сапсуе адносіны з Ім. Такую споведзь трэба было б назваць дрэннай.

### КАТЭХІЗІС КАСЦЁЛА ПРА ЎМОВЫ ДОБРАЙ СПОВЕДЗІ

У клопаце аб нашым духоўным здароўі і вечным збаўленні Касцёл коратка акрэсліў умовы сакраманту пакаяння і паяднання:

**1. Рахунак сумлення;**
**2. Жаль за грахі;**
**3. Цвёрдае пастанаўленне выправіцца;**
**4. Шчырая споведзь;**
**5. Выкананне прызначанай пакуты.**

Гэтыя так званыя чыны пэнітэнта неабходныя, каб споведзь прынесла "мірны плён справядлівасці" (Гбр 12, 11).

Традыцыйна ў нашым рэлігійным лексіконе называем сакрамант пакаяння і паяднання споведдзю. Гэта звязана з тым, што менавіта на вызнанне грахоў звяртаем найбольшую ўвагу, таму што стаць у праўдзе перад святаром і прызнаць віну – складаная задача. Несумненна, само ўсведамленне граху і вызнанне яго вельмі важнае і неабходнае для атрымання прабачэння. Аднак самае галоўнае – гэта жаль за грахі і цвёрдае пастанаўленне выправіцца. У Катэхізісе Касцёла гаворыцца: "Сярод чынаў пэнітэнта жаль за грахі займае першае месца. Гэта «боль душы і нянавісць да здзейсненага граху з намерам больш не грашыць»" (ККК 1451). Таму адварочванне ад граху з рашучасцю больш не вяртацца да яго – самае галоўнае, і гэта робіць нашу споведзь прыемнай Богу. Пан прымае такую шчырую просьбу прабачыць, і тады адбываецца паяднанне.

У той жа час, каб абудзіць пакаянне ў сэрцы, патрэбна малітва перад споведдзю і рахунак сумлення, які дапаможа ўсвядоміць свой грэх і яго разбуральныя наступствы. На жаль, некаторыя прыступаюць да споведзі без падрыхтоўкі, папярэдняй малітвы і рахунку сумлення, думаючы ў глыбіні душы: "Якія мае грахі?". Яны не ўсведамляюць, што часам маюць на сумленні цяжкія ці нават вельмі цяжкія грахі, але не бачаць іх або, што горш за ўсё, не хочуць бачыць! Яны не ўдзельнічаюць у рэкалекцыях і не чытаюць рахунак сумлення з малітоўніка перад споведдзю. Такое вінаватае знаходжанне ў слепаце надзвычай небяспечнае! Чалавек можа доўгія гады бяздушна прыступаць да споведзі, знаходзячыся ў стане смяротнага граху, а можа нават памерці так...

### ЗАКХЕЙ, МАРЫЯ МАГДАЛЕНА, ПЁТР І ЮДА

Евангелле перадае як пазітыўныя, так і негатыўныя прыклады спробы паяднання чалавека з Богам.

Закхей, які незаконна ўзбагаціўся дзякуючы пасадзе кіраўніка зборшчыкаў падаткаў, сутыкнуўшыся з Езусам, раскайваецца і праяўляе цвёрдую волю выправіць сваё жыццё: "Вось, палову маёмасці сваёй, Пане, я аддам убогім і, калі каго ў чым ашукаў, аддам у чатыры разы больш" (Лк 19, 8). Сапраўднае навяртанне ўключае ў сябе волю ўзнагароджання – перапрашэнне і кампенсацыю пакрыўджанаму. Яго пакута была прынята. На гэта Езус сказаў яму: "Сёння прыйшло збаўленне ў дом гэты" (Лк 19, 9).

Марыя Магдалена прызналася ў сваіх грахах на вачах многіх людзей, калі абліла слязамі ногі Езуса і выцерла іх сваімі валасамі. Шчыры жаль жанчыны быў прыняты Богам. Хрыстос сказаў ёй: "Адпускаюцца табе грахі твае" (Лк 7, 48). Для добрай споведзі патрэбны мужнасць і шчырасць. Было б свайго роду глупствам спакушаць Бога крывадушнай і ілжывай споведдзю.

Таксама і апостал Пётр, які ў хвіліну адчаю і страху з-за арышту і абразы Езуса адрокся ад Яго, але, пачуўшы спеў пеўня, глыбока раскаяўся. "А Пан абярнуўся і паглядзеў на Пятра. І ўспомніў Пётр слова Пана, калі сказаў яму: «Перш чым сёння заспявае певень, тройчы адрачэшся ад Мяне». І, выйшаўшы вонкі, горка заплакаў" (Лк 22, 61–62). Яго пакута была прынята, бо раскаянне спалучалася з глыбокай пакорай. Пасля свайго ўваскрасення Пан Езус запэўніў Пятра, што яго грэх дараваны.

Юда, калі зразумеў, што быў выкарыстаны, каб схапіць Езуса, і што стаў удзельнікам забойства Месіі, таксама пашкадаваў аб сваёй здрадзе. "Сказаў: «Зграшыў я, бо выдаў нявінную кроў». [...] Тады ён, кінуўшы срэбранікі ў святыні, выйшаў і пайшоў павесіўся" (Мц 27, 4–5). Юда шкадаваў і прызнаў свой грэх, але яго споведзі не хапіла пакоры Пятра і мужнасці Магдалены, каб вярнуцца да Хрыста і папрасіць прабачэння.

Няхай наша велікодная споведзь будзе пазбаўлена пыхі, крывадушнасці, хлусні і прагнасці. Няхай наша раскаянне, вызнанне грахоў і пастанаўленне ўзнагародзіць матэрыяльна тых, каму мы вінаваты, будуць шчырымі, скіраванымі да Бога і прынятымі Богам. Каб мы пачулі ад святара словы адпушчэння грахоў – "Я адпускаю табе грахі ў імя Айца і Сына, і Святога Духа" – як словы самога Бога.

# НАБЛІЗІЦЦА ДА БОГА ПРАЗ ЛЮБОЎ ДА БЛІЖНЯГА

**Час Вялікага посту для кожнага хрысціяніна з'яўляецца асаблівым і выключным. Па-першае, ён павінен дапамагчы нам падрыхтаваць свае сэрцы і душы да перажывання адной з найважнейшых праўд веры аб Уваскрасенні нашага Збаўцы Езуса Хрыста. Па-другое, гэта час, калі трэба яшчэ больш скіраваць увагу на свае адносіны з Богам і з бліжнім.**

*Кс. Ян Раманоўскі*

Адно з галоўных пасланняў Вялікага посту – напамін аб тым, што гэта выключны час для практыкавання малітвы, посту і міласціны. Падчас гэтага разважання хацелася б большую ўвагу скіраваць на міласціну і разглядзець яе ў кантэксце канкрэтных учынкаў міласэрнасці ў адносінах да нашага бліжняга.

Аб міласціне на карысць патрабуючых вельмі многа сказана на старонках Святога Пісання. У Старым Запавеце Бог заклікае да асаблівага клопату аб убогіх, патрабуючых, абяздоленых, аб сіротах і ўдовах, аб тых, хто нічога не мае. Важным момантам з'яўляецца таксама жаданне дапамагчы і быць адкрытым на патрэбы іншага, каб такім чынам адчуць сапраўдную радасць (параўн. Дрг 15, 10). У Кнізе Тобія можам прачытаць прызыў даваць міласціну ўсім, хто паступае справядліва, і не адварочваць свой твар ад беднага, каб так жа і Бог не адвярнуў свой твар ад нас (параўн. Тоб 4,7). Гэтыя словы вельмі добра дапамагаюць зразумець сэнс і значэнне міласціны і ўвогуле міласэрнасці адносна бліжняга.

У Новым Запавеце Езус Хрыстус таксама заахвочвае нас не забываць пра тых, хто знаходзіцца ў патрэбе. Аднак прыпамінае, што не павінны гэтага рабіць для сваёй славы ці напаказ: "Калі даеш міласціну, не трубі перад сабою, як робяць крывадушнікі ў сінагогах і на вуліцах, каб людзі хвалілі іх. Сапраўды кажу вам: яны атрымліваюць сваю ўзнагароду. Калі даеш міласціну, няхай не ведае твая левая рука, што робіць правіца твая, каб міласціна твая была патаемнай. А твой Айцец, які бачыць патаемнае, аддасць табе" (Мц 6, 2–4). Такім чынам, кожны, хто дае міласціну, адкрывае перад патрабуючым не толькі свае запасы і зберажэнні, але і сваё сэрца, якое напаўняецца радасцю ад таго, што можаш дапамагчы іншаму і атрымаць узнагароду Нябеснага Айца.

Час Вялікага посту – гэта добрая нагода, каб практыкаваць дабрачынныя дзеянні. Міласціна і адкрытасць на бліжняга, які знаходзіцца ў патрэбе, заўсёды будуць актуальныя, таму што сярод нас пастаянна ёсць тыя, каму неабходна дапамога. Аднак міласціна як аказанне міласэрнасці іншай асобе праяўляецца не толькі ў фінансавай дапамозе, але і ў канкрэтных учынках. Тут варта ўзгадаць пералічаныя ў Катэхізісе Каталіцкага Касцёла ўчынкі міласэрнасці для душы і цела, аб якіх таксама нельга забываць (параўн. ККК 2447).

Бясспрэчна, матэрыяльная падтрымка вельмі важная, таму што навокал многа людзей, што маюць праблемы з тым, каб забяспечыць сябе нават у мінімальных штодзённых патрэбах. На гэта могуць уплываць розныя фактары, пэўныя жыццёвыя абставіны, і часам здараецца, што яны не залежаць ад самога чалавека. У такой сітуацыі паўстае пытанне: як сябе паводзіць у адносінах да бліжняга, які знаходзіцца ў патрэбе? Можна сказаць, што гэта не мая справа і я не павінен дапамагаць патрабуючым, бо не я з'яўляюся прычынай іх праблем і цяжкасцей, у якіх апынуліся. Аднак ці такой павінна быць пазіцыя хрысціяніна адносна свайго бліжняга?

Адным з самых галоўных матываў, які нас заклікае да таго, каб быць адкрытым на патрэбы людзей, з'яўляецца запаведзь любові, а менавіта не другая частка, якая наказвае "любіць бліжняга свайго, як самога сябе" (параўн. Лк 10, 27). Мне вельмі падабаюцца словы св. Яна ад Крыжа аб тым, што "напрыканцы жыцця судзіць нас будуць з любові". Нашы канкрэтныя ўчынкі і справы будуць у гэты момант мець самую вялікую каштоўнасць і важнасць. Таму заўсёды пытаю самога сябе: "што я зрабіў для іншых?", "ці заўсёды адкрыты на рэальныя патрэбы свайго бліжняга?", "ці гатовы нешта адарваць ад сябе, калі бачу свайго брата ў патрэбе?". Для хрысціяніна гэта вельмі важныя пытанні, на якія нельга проста не звяртаць увагі.

З упэўненасцю можна сцвердзіць, што міласэрнасць, якая праяўляецца ў канкрэтных сітуацыях і справах, з'яўляецца сэрцам хрысціянскага жыцця, яна прызывае ўважліва азірацца навокал, таму што побач знаходзіцца наш бліжні. Мы не можам быць чужымі адзін аднаму і абыякавымі да лёсу іншых. Часта апраўдваем сябе крытычнай фразай, што "гэта іх жыццё", што гэта прыватная сфера кожнага чалавека, і яе трэба паважаць. Так мы хочам апраўдаць сябе і сваю эгаістычную незацікаўленасць іншым чалавекам і яго патрэбамі. Аднак запаведзь любові да бліжняга патрабуе ўсведамлення таго, што мы нясём адказнасць за тых, хто знаходзіцца побач.

Адказнасць за бліжняга з'яўляецца праяўленнем жадання служыць яму дабром і любоўю. Цікавіцца іншым чалавекам, яго жыццём – значыць адкрыць вочы на яго патрэбы: не толькі матэрыяльныя, але і духоўныя. Любоў да бліжняга – гэта таксама клопат пра яго духоўнае дабро, а перш за ўсё, пра вечнае збаўленне. І ў такіх пытаннях мы як хрысціяне не маем права быць абыякавымі.

Сёння існуе вельмі шмат магчымасцей, каб практыкаваць міласціну і міласэрнасць у адносінах да свайго бліжняга. Гэта і ініцыятывы дабрачынных арганізацый, і шматлікія акцыі, якія адбываюцца ў парафіяльных супольнасцях, і зборы неабходных рэчаў для дзіцячых дамоў і хоспісаў у гандлёвых цэнтрах, і сталоўка для бедных, і розныя фонды дапамогі патрабуючым, і многія іншыя ініцыятывы.

Аднак у чарговы раз трэба прыгадаць, што нельга абмяжоўваць час міласэрнасці і аказання міласціны толькі перыядам Вялікага посту. Запаведзь любові да бліжняга павінна мабілізаваць нас кожны дзень, незалежна ад перыяду і сітуацый, таму што, як сказаў ужо вышэй цытаваны св. Ян ад Крыжа, "напрыканцы жыцця судзіць нас будуць з любові". З любові, якая праяўляецца ў канкрэтных учынках і справах. Таму няхай гэты час будзе для кожнага з нас чарговай нагодай, каб зрабіць рахунак сумлення з рэалізацыі запаведзі любові ў нашым хрысціянскім жыцці, таму што менавіта праз любоў да бліжняга мы наближаемся да Бога.

# ЯЎГЕНІЯ НАЙДОВІЧ: “МЫ ЯШЧЭ ІДЗЁМ ДА КУЛЬТУРЫ ФІНАНСАВАЙ АДКАЗНАСЦІ”

*працяг са с. 1*

**Сёння размаўляем пра фінансавы бок справы з Яўгеніяй Найдовіч – каардынатарам праекта і адной з яго заснавальніц. Шчыры аповед пра тое, як самая вялікая каталіцкая рэдакцыя ўтрымліваецца выключна на ахвяраванні беларускіх католікаў.**

***Арцём Ткачук***

### НАМ КАЗАЛІ, ШТО ТАКОЕ НЕМАГЧЫМА

***– Гісторыя з “Радыё Марыя” пачалася ў 2014 годзе, а запрацавала яно толькі ў 2016-ым. Якім быў гэты шлях? Праз церні да зорак?***

– Не ведаю наконт зорак – можа, да якіх іншых нябесных свяцілаў, – але дакладна праз церні *(смяецца – заўв. аўт.)*. Гэта была жудасная адміністрацыйна-юрыдычная праца, і яе вынікі не залежалі ад нас. Мы ўвесь час сутыкаліся з лянівасцю, недаадукаванасцю і нежаданнем увогуле ўнікаць у сэнс пытанняў з боку розных людзей у розных установах. Гэта страшна злавала.

***– У сілу сваёй прафесійнай дзейнасці Вы ўжо мелі вопыт абівання парогаў. Гэта дапамагала?***

– Я ведаю, што заўсёды павінен быць вынік. У сваім жыцці праходзіла шмат розных рэгістрацый, перарэгістрацый, ліквідацый прадпрыемстваў... Мяне гэта не страшыць. Аднак гісторыя з “Радыё Марыя” была надзвычайнай. Два яго складнікі – рэлігійны і інфармацыйны – ставілі чыноўнікаў у такое становішча... То-бок, ідзеш туды, куды цябе накіравалі па рэлігійнай частцы, а табе кажуць: “Не-не-не! Гэта вам па інфармацыйнай, на агульных умовах”. Прыходзіш туды, а там кажуць: “Не, вам трэба не да нас, а да тых першых”. І так па кругу, па кругу, па кругу... Прычым вельмі доўга. Але мы ведалі, што вынік будзе. Мусілі проста быць безэмацыйнымі і метадычнымі.

***– Узгадваюцца словы кс. Ігара Лашука, што, працуючы з дакументацыяй для будаўніцтва касцёла, яму часам падаецца, быццам будуе касмічны карабель. З рэгістрацыяй “Радыё Марыя” было таксама?***

– Так, думаю, гэта прыкладна як пабудаваць касцёл.

Адказныя людзі не разумеюць, як радыё можа быць некамерцыйным праектам. Нас пыталі: “Дык а хто будзе вас фінансаваць?”. А мы адказвалі, што будзем існаваць на ахвяраванні. Складана было патлумачыць, што ў радыё няма мэты атрымліваць нейкі прыбытак. Наш праект быў хіба ці не адным з першых падобных у Беларусі.

### МНОГІМ ЦЯЖКА ЎЦЯМІЦЬ КАРЫСЦЬ, ЯКУЮ НЯСЕ НАША РАДЫЁ ДЛЯ ЛЮДЗЕЙ

***– Я чуў, што Ваша рэдакцыя называе “Радыё Марыя” “невідавочна карысным” праектам. Чаму?***

– Гэта ўзялося з таго, што, калі ў самым пачатку мы пачалі запрашаць да сябе валанцёраў і прасіць аб ахвяраваннях, нам было цяжка патлумачыць сваю карыснасць. Ахвяраванні звычайна ідуць ад людзей з мяккім і адкрытым сэрцам. Такім яно робіцца ад жалю, спачування камусьці. Напрыклад, хворым дзецям, бадзяжным жывёлам, якіх адстрэльваюць ці якім трэба палячыць падбітую лапу. Тыповае “бяздомных укрыць, сасмаглых напаіць, галодных насыціць”. Вось гэта ў межы звычайнага чалавечага разумення добра ўкладаецца.

Але “Радыё Марыя” кажа пра духоўныя патрэбы, якія таксама існуюць, але яны невідавочныя. Мы не ведаем, напрыклад, што робіцца ў душы старэнькай самотнай бабулі. Ці як адчувае сябе чалавек, які знаходзіцца сам-насам са сваім невылечна хворым дзіцём. Калі табе балюча, страшна, самотна, ты не будзеш слухаць нейкае забаўляльнае радыё. Гэтае ўмоўнае вяселле, музычка там – яно ні аб чым.

Вось чаму многім цяжка ўцяміць карысць, якую нясе “Радыё Марыя” для людзей.




***– Калі слухаеш “Радыё Марыя”, узнікае пачуццё моцнай супольнасці сярод пастаянных слухачоў. Ды і Вы ў рэдакцыі нярэдка пра гэта кажаце. Я правільна разумею, што ёсць кола асоб, якія слухаюць Вас бесперапынна і для якіх Вы жыццёва важныя?***

– Такія людзі ёсць. Яны нібыта чальцы нашай радыёсям’і. Я таксама слухаю “Радыё Марыя”, яно мне падабаецца, бо тое, што чую там, – разумнае і добрае.

Увогуле, калі мы знаёмім людзей з “Радыё Марыя”, гаворым: “Проста паверце. Проста знайдзіце ў сабе сілы пераадолець боязь інтэрнэту, сваё нежаданне знаёміцца з нечым новым. Націсніце на гэтую кнопку аднойчы і больш ужо не зможаце вушэй адляпіць”. Калі ўключыш і паслухаеш, што тут кажуць, дык ужо сорамна неяк выключаць робіцца *(смяецца – заўв. аўт.)*.

***– А Вас слухаюць духоўныя асобы? Мне часам падаецца, што праект не карыстаецца вялікай папулярнасцю сярод іх.***

– Я думаю, гэта залежыць ад духоўных асоб. Мае знаёмыя святары, напрыклад, кажуць, што праект ім падабаецца. Я ж не магу залезці ў іх галовы і праверыць, ці рэальна яны слухаюць, ці проста хочуць зрабіць мне камплімент. Аднак мы дакладна ведаем, што радыё слухаюць і яно падабаецца. Бачым пэўны прыток да “Радыё Марыя”. За апошнія 4 гады мы значна палепшыліся. Цяпер атрымліваем шмат добрых водгукаў, у тым ліку ад святароў і сясцёр. Ёсць манаскія дамы, дзе “Радыё Марыя” не выключаецца. Ёсць святары, якія кажуць: “Я слухаў вось гэта – было класна, а вось гэтаму скажыце, каб папрацаваў над мовай”.

### ЧЫМ ДАЛЕЙ ЖЫВУ, ТЫМ БОЛЬШ ХАЧУ БЕГЧЫ І ПРАСІЦЬ ГРОШЫ НА ГЭТАЕ РАДЫЁ

***– У Вас чацвёра дзяцей, бізнес, сабакі і да гэтага ўсяго яшчэ “Радыё Марыя”, на працу якога трэба знайсці 10 тысяч рублёў у месяц. Як Вы з гэтым жывеце?***

– У гэтай з’явы – у 10-ці тысячаў рублёў – ёсць канкрэтная назва – “гільятына”. Гэта наша фінансавая гільятына, калі трэба заплаціць за арэнду, выплаціць заробкі пяці супрацоўнікам, падаткі на гэтыя заробкі. Напрыканцы яшчэ аплата камуналкі і розныя дробныя плацяжы. Сякера падае на шыю некалькі разоў на месяц – плацяжы надыходзяць адзін за адным.

Дзякуй Богу, я не адна адказная за пошук гэтых сродкаў. Кс. Аляксандр Фаміных *(духоўны кіраўнік “Радыё Марыя” – заўв. аўт.)* таксама нястомна ездзіць па Беларусі, знаёміць людзей з радыё, просіць аб фінансавай падтрымцы. Есць валанцёры, якія шмат дапамагаюць. Есць і ахвярадаўцы, якія падтрымліваюць радыё значнымі ўнёскамі, але нават не кажуць сваё імя.

З-за таго, што выдаткі на працу студыі вялікія, а праз АРІП прыходзіць недастаткова, мы вырашылі не прапускаць ніводных выхадных, калі можам выехаць да людзей у якую-небудзь парафію. А ўвогуле, калі б у нас было больш грошай, маглі б яшчэ больш рабіць: і паляпшаць якасць праграм, і манціраваць цікавыя відэафільмы, і шмат яшчэ чаго.

Некаторыя кажуць: “О, 10 тысяч, якая велічэзная сума!” ці “Навошта вам столькі? Вы ж інтэрнэт-радыё!”. Аднак, калі гляджу на лічбы выдаткаў, у мяне ад іх валасы дыбам устаюць.

***– Я правільна разумею, што з гэтых 10-ці тысяч рублёў 30-40% ідзе на падаткі?***

– Так, значная частка сродкаў ідзе на аплату падаткаў на заробкі. Калі справа жыве за кошт ахвяраванняў і не мае бізнес-мэты, такія вялікія выдаткі асабліва заўважаюцца.

Дарэчы, заробкі ў людзей на радыё зусім невялікія. Думаю, касіры ў краме зарабляюць больш, чым плацім мы. Аднак тут робіцца неверагодны аб’ём працы. Жартуем, што ад гукачоў, якія манціруюць праграмы, часам валіць дым. Хочам нарэшце дайсці да такога ўзроўню, каб плаціць супрацоўнікам заробкі, якіх яны сапраўды заслугоўваюць сваім прафесіяналізмам і адказнасцю. Пакуль мы не ў стане гэта рабіць, але спадзяюся, што зменім сітуацыю.

***– Такі аб’ём адказнасці, які на Вас вісіць у “Радыё Марыя”, прыляцеў адразу ці паступова?***

– Мне не было страшна браць адказнасць ад самага пачатку радыё. Мы бачылі прыклады з іншых краін і разумелі, што гэта працуе і што мы не можам быць іншымі. Усе хрысціяне, католікі, аднолькавыя. Ім патрэбна інфармацыйнае асяроддзе, якое дае “Радыё Марыя”, і, у прынцыпе, няма такіх краін, дзе на гэта не ахвяруюць. Ёсць краіны, дзе гэтых ахвяраванняў мала, напрыклад, у Расіі. Гэта такі сумны прыклад. Але ў цэлым, людзі падтрымліваюць “Радыё Марыя” паўсюль.

Чым далей жыву, тым больш хачу бегчы і прасіць грошы на гэтае радыё. Ужо сёння я ведаю, хто нашы слухачы, ведаю, якія яны, іх лёсы. І дакладна ведаю таксама, што ім вельмі патрэбна наша радыё.

***– Вам шмат разоў хацелася ўсё кінуць?***

– Ніколі не хацелася. Магу сказаць, што, магчыма, “Радыё Марыя” – адзіная рэч, якая трымае мяне цяпер у Беларусі. Мой муж ужо не жыве тут, і я б хацела жыць разам з ім. Думаю, што магу з’ехаць з краіны, закрыць свой бізнес, здаць ці прадаць дом. Аднак калі ўзгадваю “Радыё Марыя”, мне проста як нажом па сэрцы.

***– Колькі парафій за ўсе гэтыя гады Вы з “Радыё Марыя” аб’ездзілі?***

– Складана палічыць, трэба было б статыстыку паглядзець. Але парафій 100 дакладна ёсць.

### ТРЭБА СТАВІЦЦА ДА АХВЯРАВАННЯЎ ЯК ДА ПЛАТЫ ЗА ШЧАСЦЕ

***– Мне падаецца, што беларускія католікі гатовы ахвяроўваць большыя сумы грошай пры нейкай нагодзе. Аднак з тым, каб штомесяц падтрымліваць пэўныя ініцыятывы невялікай сумай – ужо цяжэй. Пры такім раскладзе “Радыё Марыя”, напрыклад, было б прасцей. Кожны месяц некалькі тысяч слухачоў маглі б скідвацца невялікай сумай і цалкам пакрываць усе расходы. Чаму гэта так не працуе?***

– Складана сказаць. Мы з’яўляемся некамерцыйным медыйным праектам, на які тэхнічна і юрыдычна дастаткова складана арганізаваць такія штомесячныя ўклады. Прасцей за ўсё гэта робіцца г. зв. рэкурэнтным (паўтаральным) плацяжом з банкаўскай карткі. Гэта значыць, штомесяц у цябе аўтаматычна спісваецца, напрыклад, 5 рублёў.

Мы такую штуку зрабілі праз падпіску на наш архіў. Думаю, калі арганізаваць вялікую інфармацыйную кампанію, то ўмоўныя дзве тысячы асоб, якія былі б гатовы даваць нам штомесяц па 5 рублёў, знайшліся б. І сярод католікаў, і сярод людзей, якія спачуваюць католікам.

***– А чаму тады не арганізуеце?***

– Праз гэтыя тэхнічныя складанасці. Калі б мы сказалі: “Падпішыся на «Радыё Марыя»!” – і з тваёй карты спісваліся б грошы, было б, магчыма, прасцей. А так трэба тлумачыць, што такое архіў і як зрабіць падпіску на яго. Гэта складана. А можа, мы лянуемся проста. Пакуль што выбралі такі шлях: ездзім па парафіях і просім аб ахвяраваннях. Ёсць, канешне, і ўсе магчымыя сучасныя шляхі, якімі можна скласці ахвяраванне і падтрымаць працу радыё.

***– Значыць гэтыя нядзельныя выезды больш эфектыўныя і з пункту гледжання збірання ахвяраванняў, і для распаўсюджвання “Радыё Марыя”?***

– Так, нам важна ўбачыць людзей, паразмаўляць з імі. Адна з галоўных мэт нашых падарожжаў – навучыць людзей карыстацца радыё. А яшчэ з такіх паездак прывозім цікавыя гісторыі, якія нам расказваюць людзі, і якія пасля пераўтвараюцца ў праграмы.

Заўважылі, што калі ў парафіі ўжо ёсць хтосьці, хто слухае “Радыё Марыя”, і калі святар ужо сам паслухаў нас і ўбачыў відавочную карысць для людзей, тады колькасць слухачоў там хутчэй памнажаецца. Да прыкладу, мы нядаўна былі ў Баранавічах, і там у касцёле не было ніводнай асобы, хто б слухаў нас. У такіх парафіях цяжэй, там людзі проста праходзяць міма. Першыя гады мы плакалі ад такога. А цяпер ужо прызвычаіліся (амаль) і ставімся да гэтага паіншаму. З уласнага досведу ведаем, што наступны прыезд сюды будзе ўжо іншым. Галоўнае, што яшчэ з аднаго месца на карце мы атрымаем цяпер тэлефонны званок і ўключанае радыё.

***– Атрымліваецца, што, нягледзячы ні на што, беларускія католікі дастаткова ахвярныя і яны, у прынцыпе, у стане цалкам самастойна ўтрымліваць рэдакцыю “Радыё Марыя”?***

– Ёсць людзі вельмі ахвярныя, ёсць тыя, хто кажа: “Ксёндз сказаў даць, на табе 20 капеек”. І гэта таксама ахвярнасць. Мы яшчэ ідзём да культуры фінансавай адказнасці за свае ініцыятывы. Мы расцём. Сёння ў Беларусі словам “данаты” ўжо нікога не здзівіш, гэта цалкам нармальна. Мы развіваемся.

Вось кажуць, што пратэстанты ў плане ахвяраванняў на свае справы вельмі эфектыўныя. Напрыклад, калі ў супольнасці няма храма, яны за кошт дзесяціны і высокай фінансавай адказнасці скідваюцца і дастаткова хутка яго будуюць. А ў католікаў з гэтым больш праблем – шматтысячныя парафіі гадамі ўзводзяць касцёлы.

На маю думку, няма праблемы ў ахвярнасці католікаў. Праблема хутчэй у арганізаванасці. А яшчэ мне падаецца, што ў нас, беларусаў, ёсць пакуль крыху няправільнае стаўленне да грошай. Існуюць правілы “зэканоміць, а не зарабіць” і “зарабіць і патраціць на відавочна карыснае”. Лепш парамантаваць ці набыць машыну, чым звазіць сям’ю на адпачынак куды-небудзь – пабыць усім разам і атрымаць супольныя эмоцыі і нематэрыяльны скарб на усё жыццё ў выглядзе ўспамінаў. Няма такога стаўлення, што грошы – гэта надзвычайна карысная рэч, якую можна зарабляць і якой можна кіраваць, а не прыціскаць да сэрца.

Увогуле, назвы, якімі мы часта называем грошы – капейчына, “дзенюжка” – досыць красамоўныя. Нібыта саромеемся іх, саромеемся таго, што так проста і неабходна. Грошы – цудоўная рэч. Іх трэба даваць, іх трэба зарабляць, трэба думаць, як іх зарабіць, а не зэканоміць. І як зарабіць іх болей, каб падтрымаць і дзіця, што патрабуе на лячэнне, і ката з сабакам, і выданне кнігі, і духоўны праект “Радыё Марыя”...

У нас, людзей, ёсць галава і рукі. А яшчэ мы католікі. У нас Бог стаіць на чале ва ўсіх справах, у якіх хочам зрабіць свой зямны свет лепшым і палепшыцца самім.

# У АБАРОНЕ ЖЫЦЦЯ

працяг са с. 1

**Ва ўрачыстасць Звеставання Пана адзначаем у Касцёле Дзень святасці жыцця. Ён быў устаноўлены ў адказ на выразную просьбу Святога Айца Яна Паўла ІІ, які ў энцыкліцы "Evangelium Vitae" заклікаў увесь Касцёл і ўсіх людзей добрай волі да малітвы ў абарону чалавечага жыцця.**

Кс. Юрый Марціновіч



Кожнае чалавечае жыццё з'яўляецца святым, бо гэта Божы дар, таму яно заслугоўвае пашаны і абароны. Толькі Бог дае жыццё, таму толькі Ён можа прыняць рашэнне пра яго пачатак і канец.

На жаль, мы ўсе з'яўляемся сведкамі таго, як у сучасным свеце становіцца ўсё больш і больш прыкметнай непавага да жыцця. Усё часцей чалавек прэтэндуе на права прымаць рашэнні адносна жыцця іншых, асабліва адносна жыцця ненароджаных дзяцей і пажылых людзей – самых безабаронных асоб. Распаўсюджваецца небяспечная з'ява, якую Ян Павел ІІ акрэсліў як "цывілізацыю смерці".

Дзень святасці жыцця павінен нагадаць, што як хрысціяне, вучні Езуса Хрыста, мы пакліканы абвяшчаць "Евангелле жыцця", гэта значыць абараняць жыццё ад зачацця да натуральнай смерці як адну з найвялікшых, універсальных і непарушных каштоўнасцей.

Адным з канкрэтных дзеянняў па абароне зачатага жыцця, якое кожны з нас можа распачаць ва ўрачыстасць Звеставання Пана, з'яўляецца малітоўная ініцыятыва "Духоўнае ўсынаўленне". Яна заключаецца ў тым, што мы абавязваемся кожны дзень на працягу дзевяці месяцаў маліцца дзесяткам Ружанца і кароткай малітвай, а таксама ўзяць на сябе добраахвотнае адмаўленне і добры ўчынак у інтэнцыі зачатага дзіцяці, якому пагражае аборт.

Мусім усведамляць, што, рашаючыся на Духоўнае ўсынаўленне, мы з Божай дапамогай можам унесці свой уклад у выратаванне чалавечага жыцця. Над кожным абраным Богам дзіцём мы адкрыем парасон малітвы, адрачэнняў, посту і ахвяры, і на працягу дзевяці месяцаў будзем маліцца аб выратаванні яго жыцця.

Мы не ведаем яго імя. Не ведаем, на якім кантыненце яно жыве, не ведаем, кім будзе ў жыцці. Бог сам выбірае гэтае дзіця, і толькі Ён ведае, кім яно будзе. А мы... магчыма, калі-небудзь сустрэнемся ў вечнасці з Божым Абраннікам і будзем разам з ім радавацца дарам жыцця, які паходзіць ад Бога.

Давайце таксама акружым сваёй малітвай усіх мам, якія чакаюць дзяцей, асабліва тых, у якіх не хапае мужнасці прыняць новае жыццё. Няхай Марыя, якая смела сказала Богу сваё "так", выпрасіць для іх ласку адкрытасці на дар жыцця ў духу паслухмянасці Богу і даверу Яго волі.

Памолімся таксама за тых, хто здзейсніў цяжкі грэх аборту: за маці, якія пазбавілі жыцця ўласных ненароджаных дзяцей, за членаў сем'яў, якія ўгаварылі іх на аборт альбо не ўстрымалі ад яго, за ўрачоў, медсясцёр і ўсіх, хто мае на сумленні жыццё нявінных людзей. Няхай добры Бог дасць ім ласку пакаяння і навяртання, каб маглі знайсці душэўны супакой у любячых руках Нябеснага Айца, які, як пастаянна нагадвае Святы Айцец Францішак, не стамляецца даруючы.

Мы заклікаем усіх ва ўрачыстасць Звеставання Пана скласці абяцанне Духоўнага ўсынаўлення зачатага дзіцяці. Звычайна такое абяцанне складваецца ў касцёле і мае ўрачысты характар, але не менш важным будзе абяцанне, прынятае ў прыватным парадку ў сваім доме, бо Бог і там чакае нашага ўдзелу ў выратаванні жыцця ненароджаных.

### АБЯЦАННЕ ДУХОЎНАГА ЎСЫНАЎЛЕННЯ ЗАЧАТАГА ДЗІЦЯЦІ

Найсвяцейшая Панна, Маці Божая Марыя, усе анёлы і святыя! Кіруючыся жаданнем дапамагчы ў абароне ненароджаных, я прымаю цвёрдае рашэнне і абяцаю, што з 25 сакавіка 2021 года, з урачыстасці Звеставання Пана, прымаю ў Духоўнае ўсынаўленне адно дзіця, імя якога вядома толькі Богу, каб цягам дзевяці месяцаў кожны дзень маліцца аб выратаванні яго жыцця і аб справядлівым і праведным жыцці пасля нараджэння.

**Гэтымі малітвамі будуць:**

– адна таямніца Ружанца,
– мае дабравольныя пастановы,
– малітва, якую сёння прамоўлю ўпершыню:

**Пане Езу, праз заступніцтва Марыі, Тваёй Маці, якая нарадзіла Цябе з любоўю, а таксама праз заступніцтва св. Юзафа, чалавека даверу, які апекаваўся Табою пасля нараджэння, прашу Цябе ў інтэнцыі гэтага ненароджанага дзіцяці, якое духоўна ўсынаўляю і якое знаходзіцца ў небяспецы аборту. Прашу, дай яго бацькам любоў і адвагу, каб яны не забівалі свайго дзіцяці, а пакінулі яму жыццё, якое Ты сам гэтаму дзіцяці прадвызначыў. Амэн.**

ЗАДАЙ ПЫТАННЕ

### Ці можна не захоўваць пост жанчыне пасля нараджэння дзіцяці?

grodnensis.by

*Калі спытаць у вернікаў, у чым заключаецца пост, найчасцей можна пачуць: "Не есці мяса". Аднак кананічнае права Касцёла ў кан. 1249 акрэслівае пост як асаблівую малітву, учынкі, зробленыя з набожнасцю і любоўю, больш дбайнае выкананне абавязкаў, а таксама дабравольныя пастановы і ўстрыманне паводле прапісаных норм. Што датычыцца посту як устрымання ад ежы, на працягу ўсяго года ў кожную пятніцу трэба ўстрымлівацца ад мясных страў (акрамя пятніц, на якія прыпадае ўрачыстасць), а ў Папялец і Вялікую пятніцу захоўваць сціслы пост.*

*Час Вялікага посту – гэта не дыета і не самапрыніжэнне, а час наближэння да Бога і адкрывання годнасці самога сябе і бліжняга. І як вынік – час лепшага распазнання Божай волі і стараннага выканання Божых загадаў. Разумная хрысціянская разважлівасць пабуджае нас да балансіроўкі ў выкананні загадаў, наказаў і забарон. Таму, напрыклад, робячы вялікі акцэнт на служэнні ўбогім, можна ндбайна адносіцца да сваёй сям'і. І, калі неразважліва пасціцца, устрымліваючыся ад ежы, можна нашкодзіць свайму здароўю. Пазначаю сваю фізіялогію і прыслухоўваючыся да парад медыкаў і іншых спецыялістаў, у дадзеным выпадку трэба, паводле ўласнага сумлення, рабіць так, каб гэта не прыносіла шкоды ні духоўнай (калі без прычыны занядбоўваць пост), ні фізічнай (калі пасціцца, падвяргаючыся рызыцы).*

РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

Кс. Юрый Марціновіч

*21 сакавіка – V Нядзеля Вялікага посту*
*Ян 12, 20–33*

Былі некаторыя грэкі сярод тых, хто прыйшоў пакланіцца Богу на свята. Яны падышлі да Філіпа, які быў з Бэтсаіды Галілейскай, і прасілі яго, кажучы: "Пане, мы хочам бачыць Езуса". Філіп пайшоў і сказаў пра гэта Андрэю. І пайшлі Андрэй з Філіпам, і расказалі Езусу. А Езус сказаў ім у адказ: "Настала гадзіна ўславіцца Сыну Чалавечаму. Сапраўды, сапраўды кажу вам: калі пшанічнае зерне, упаўшы ў зямлю, не памрэ, то застанецца адно, а калі памрэ, то прынясе багаты плён. Хто любіць жыццё сваё, загубіць яго; а той, хто ненавідзіць жыццё сваё ў гэтым свеце, захавае яго для вечнага жыцця. Калі хто служыць Мне, няхай ідзе Маім шляхам; і дзе Я, там будзе і слуга Мой. І хто Мне служыць, таго ўшануе Айцец Мой. Цяпер усхвалявана душа мая; і што Мне сказаць? Ойча, захавай Мяне ад гэтай гадзіны. Але ж дзеля гэтай гадзіны Я і прыйшоў. Ойча, услаў імя сваё!". І пачуўся з неба голас: "Уславіў і ўслаўлю зноў". Народ, які стаяў і чуў гэта, казаў: "Гэта гром". Іншыя ж казалі: "Анёл гаварыў з Ім". А Езус адказаў, кажучы: "Не дзеля Мяне быў гэты голас, але дзеля вас. Цяпер адбываецца суд над гэтым светам; цяпер князь гэтага свету будзе выкінуты вон. І Я, калі буду ўзняты над зямлёю, усіх прыцягну да сябе". Казаў жа Ён гэта, прадказваючы, якою смерцю меўся памерці.

## Не поспех, а ахвяра

*У сваёй школе жыцця Езус Хрыстус акцэнтуе не поспех, а ахвяру. Ахвяра падобна на евангельскае зерне, якое, паміраючы, прыносіць плён і спажытак. Укрыжаваны Хрыстос вучыць нас, што такое ахвяра для іншага чалавека. Ён пачынае гэты ўрок у Вячэрніку. Запрашае нас ахвяраваць сваё жыццё іншым.*

*Настаўнік з Назарэта чакае ад нас ахвяры не з таго, што маем альбо чым распараджаемся, але ахвяры з нашага сэрца. Яе сутнасць вызначаецца дарам для іншага. Замест таго, каб засяроджвацца на сабе і жыць для сябе – да чаго нас нястомна заклікае спажывецкі свет, – трэба рашыцца жыць, цярпець і паміраць за кагосьці. І тады той, каго любім, стане для нас важнейшым за нас саміх.*

*Служэнне Богу і людзям – гэта ахвяра, прыемная Пану, таму што тады наша сэрца становіцца падобным на Яго Сэрца.*

*Пане Езу Хрысце, дапамагай мне служыць і ахвяраваць сябе іншаму ў дары сэрца, а таксама вучы ніколі не імкнуцца да поспеху коштам іншага чалавека!*

*28 сакавіка – Пальмовая нядзеля, ці Мукі Пана*
*Мк 11, 1–10*

Калі наблізіліся да Іерусаліма, да Бэтфагіі і Бэтаніі, да гары Аліўнай, Езус паслаў двух сваіх вучняў і сказаў ім: "Ідзіце ў вёску, што перад вамі, і адразу, як увойдзеце ў яе, знойдзеце прывязанае асляня, на якое ніхто з людзей яшчэ не сядаў. Адвяжыце яго і прывядзіце. А калі хтосьці вам скажа, навошта вы гэта робіце, адкажыце: «Ён патрэбны Пану», і зараз жа адашле зноў яго сюды". Яны пайшлі і знайшлі асляня, прывязанае каля дзвярэй знадворку, на вуліцы, і адвязалі яго. І некаторыя з тых, хто стаяў там, казалі ім: "Што вы адвязваеце асляня?". Яны адказалі ім, як наказаў Езус, і тыя адпусцілі іх. І прывялі да Езуса асляня, і паклалі на яго свае адзенне, а Ён сеў на яго. І многія слалі адзенне сваё на дарозе, а іншыя – галінкі, зрэзаныя на палях. І тыя, хто ішоў спераду і следам за Ім, усклікалі: "Гасанна! Благаслаўлёны той, хто прыходзіць у імя Пана! Благаслаўлёнае валадарства айца нашага Давіда, якое надыходзіць! Гасанна на вышынях!".

## Не здалёк, а зблізку

*Пальмовая нядзеля набліжае нам трыумфуючага Езуса падчас уезду ў Іерусалім, каб адразу ж пасля гэтага раздавіць нас апісаннем апошніх хвілін перад Яго смерцю. Падобна таму, як Езус рыхтаваў сябе і апосталаў да пакут і смерці, так мы, удзельнічаючы ў абрадах Вялікага тыдня, павінны ўвайсці ў тое, што Хрыстос зрабіў для нас, павінны падрыхтавацца да сустрэчы з Ім.*

*Пальмовая нядзеля і высілак Вялікага тыдня мусяць быць для вызнаўцаў Хрыста ачышчэннем, намашчэннем і смерцю для зла і граху, каб мы маглі стаць перад Езусам, як тыя, хто вітаў Яго пальмамі і ўсклікаў "Гасанна" – павінны быць чыстымі і радаснымі. Здабудзем гэтую чысціню і радасць, калі разам з нашым Настаўнікам пройдзем праз Віфанію і намашчэнне; праз Вячэрнік і першую Эўхарыстыю; праз Аліўны сад, стомленасць апосталаў і здраду Юды; праз ілжывыя абвінавачванні перад Вышэйшай радай і адрачэнне Пятра; праз дзядзінец Пілата і вызваленне Барабы; праз вуліцы Іерусаліма з цяжарам крыжа на плячах; праз прыбіванне да крыжа і пакуты Бога-Чалавека.*

*Адкрыем нашы розумы і сэрцы, каб быць побач з Панам Езусам. Каб ісці за Ім і разам з Ім крок у крок па шляху Ягонай поўнай мукі любові да кожнага з нас.*

*Пане Езу Хрысце, дазволь мне заўсёды быць побач з Тваім крыжам, каб я мог ісці з Табой крок у крок!*

## АД ШЧЫРАГА СЭРЦА

**ЯГО ЭКСЦЭЛЕНЦЫІ КСЯНДЗУ БІСКУПУ ЮЗАФУ СТАНЕЎСКАМУ**

*з нагоды імянін перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай кожны дзень Вашага жыцця і пастырскай паслугі будзе шчаслівы і блаславёны, Бог адорвае здароўем і заўсёды падтрымлівае ў цяжкія хвіліны.*

*Рэдакцыя "Слова Жыцця"*

**ЯГО ЭКСЦЭЛЕНЦЫІ КСЯНДЗУ БІСКУПУ ЮЗАФУ СТАНЕЎСКАМУ**

*з нагоды імянін складаем сардэчныя віншаванні.*
*Няхай жыццё Ваша без смуткаў праходзіць,*
*А сонца з усмешкай над Вамі ўзыходзіць.*
*Здароўе хай моцным будзе неустанна,*
*І ад смуткаў бароніць Вастрабрамская Панна!*

*Апостальства "Маргарытка" і вернікі парафіі Бенякони*

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ЗБІГНЕВУ ДРАГУЛУ**

*з нагоды імянін складаем найлепшыя пажаданні. Няхай добры Бог адорвае Вас шчодрымі ласкамі, а святы заступнік няспынна моліцца за Вас перад Божым тронам. Жадаем здароўя, сілы, стойкасці, непахіснай веры і надзеі.*

*З памяццю ў малітве члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам са Старых Васілішкаў*

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ КАНОНІКУ ЮЗАФУ БАГДЗЕВІЧУ**

*з нагоды імянін перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай кожны Ваш дзень будзе асвечаны Божым блаславеннем і напоўнены Яго ласкамі, Найсвяцейшая Панна Марыя ахінае любоўю, а святы заступнік стала апекуецца. Няхай здароўе мацнее, а радасць і супакой будуць вернымі спадарожнікамі ў жыцці. Мы дзякуем Пану Богу за Вас, да якога хочацца ісці і ў радасці, і ў горы, бо заўсёды зразумееце, дапаможаце і знойдзеце патрэбныя словы. Шчасці Божа!*

*З павагай і малітвай вернікі парафіі свсв. Космы і Дам'яна ў Астраўцы*

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ВІКТАРУ СУБЕЛЮ**

*з нагоды дня нараджэння і надыходзячых Велікодных свят жадаем, каб Пан Бог штодзённа адорваў Вас сваімі ласкамі і моцным здароўем, спакоем, мудрасцю і поспехам у душпастырскай паслузе. Няхай Найсвяцейшая Панна Марыя і святы заступнік нятомна Вамі апекуюцца, а Анёл-ахоўнік чувае і дапамагае.*

*Сям'я Шарко і Аляксандар*

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ВІКТАРУ СУБЕЛЮ**

*з нагоды дня нараджэння і свята св. Юзафа перасылаем букет найлепшых пажаданняў: Божага блаславення, душэўнага супакою, апекі Маці Божай. Няхай Святы Дух дапамагае годна выконваць святарскую паслугу і нястомна ўдзяляе свае дары. Жывіце ў радасці, а Ваша сэрца няхай заўсёды будзе напоўнена спакоем і любоўю, каб Вы маглі ўпэўнена крочыць па Божым шляху да святасці.*

*З малітвай Касцёльны камітэт і ўдзячныя парафіяне касцёла Нараджэння НПМ у Трабах*

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ УЛАДЗІСЛАВУ СУРВІЛУ**

*з нагоды надыходзячага дня нараджэння перасылаем самыя сардэчныя пажаданні. Няхай міласэрны Бог адорвае Вас сваімі ласкамі, радасцю і спакоем, побач заўсёды знаходзяцца зычлівыя людзі, а Маці Божая нястомна ахінае сваёй апекай і абараняе ад зла.*

*Вернікі парафіі Найсвяцейшай Тройцы ў в. Войстам*

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ЯНУ ГАВЕЦКАМУ**

*з нагоды дня нараджэння жадаем добрага здароўя і шчаслівага жыцця. Няхай Пан Езус бароніць нястомна і вядзе па абранай дарозе, а Яго Найсвяцейшая Маці заўсёды апекуецца і дапамагае.*

*З малітвай і ўдзячнасцю вернікі з в. Вігушкі і Галімшчына*

**ПАВАЖАНАМУ АЙЦУ ВАЛЕРЫЮ ШЭЙГЕРЭВІЧУ**

*перасылаем словы ўдзячнасці за шматгадовую паслугу ў нашай парафіяльнай супольнасці. Жадаем моцнага здароўя і радасці. Няхай Ваш шлях заўсёды будзе асвечаны ласкай Божай дапамогі. Поспехаў Вам на новым месцы святарскай паслугі!*

*З павагай вернікі парафіі св. Францішка з Асізі ў Свіслачы*

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ АЛЯКСАНДРУ РУДЗЕВІЧУ**

*з нагоды дня нараджэння ад шчырага сэрца жадаем шчодрых Божых ласкаў, нястомнай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі і святога заступніка, а таксама дароў Святога Духа. Няхай кожны дзень будзе шчаслівы і благаслаўлёны, а праца на ніве Пана прыносіць багаты плён.*

*Парафіяне з в. Старое Сяло*

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ВІКТАРУ ХАНЬКО**

*з нагоды дня нараджэння шчыра жадаем здароўя, мудрасці і цярплівасці. Няхай Ваша сэрца заўсёды будзе напоўнена Божай радасцю, святлом і ласкай. Няхай Бог блаславіць, Езус Хрыстус абараняе ад бед, а Панна Марыя і святая заступніца нястомна Вас ахоўваюць.*

*З павагай парафіяне з Мастоў*

**ПАВАЖАНЫ КСЁНДЗ АЛЯКСАНДР СЕВАСЦЬЯНОВІЧ!**

*Прыміце самыя шчырыя і добрыя пажаданні з нагоды дня нараджэння! Вы з'яўляецеся для нас прыкладам, жыццёвым арыенцірам! Ваша сапраўдная любоў да Бога, імкненне дайсці да кожнага з разуменнем і падтрымкай, а таксама з пасланнем Евангелля, шчырае жаданне гаварыць пра Бога словам і сваімі ўчынкамі – усё гэта дапамагае нам увасабляць Божую волю, быць з Госпадам, ісці наперад і змяняць сваё жыццё. Дзякуем Вам, дарагі наш Настаўнік, за старанні ў рамонце касцёла і не толькі. Мы бачым, з якой велізарнай любоўю Вы гэта робіце! У малітвах дзякуем нашаму Пану за тое, што Вы з намі, што вучыцеся ад Вас любіць усіх, як любіце Вы! Мы бясконца ўдзячныя Вашым бацькам за Вас і молімся аб здароўі для Вашай мамы, а для таты – аб вечным супакоі ў Небе. Молімся таксама аб святасці для Вас! Просім, каб добры Бог даў Вам шмат сіл, здароўя і цярплівасці на рэалізацыю планаў і задум. Няхай Святы Дух спадарожнічае і асвячае Ваш жыццёвы шлях на доўгія гады, а Маці Божая абдымае і нясе цяпло свайго сэрца!*

*З любоўю парафіяне касцёла св. Мікалая ў Міры*

**ПАВАЖАНЫ КСЁНДЗ ПРОБАШЧ ЯН ГАВЕЦКІ!**

*Сардэчна віншуем Вас з днём нараджэння!*
*Жадаем з радаснай нагоды*
*Здароўе мець, са шчасцем быць,*
*Не знаць бяды. Жадаем згоды,*
*Да ста гадоў Вам зычым жыць.*
*Няхай заўсёды Бог абараняе*
*Ад зла, хваробы ды журбы.*
*І ласку шчодра пасылае*
*Сёння, заўтра і заўжды.*

*Парафіяне касцёла свсв. апосталаў Пятра і Паўла ў Іўі*

***Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні.***

## КАТАЛІЦКІЯ СМІ БЕЛАРУСІ




**інтэрнэт-партал Касцёла ў Беларусі**

Папская энцыкліка "Fratelli Tutti" ўпершыню перакладзена мусульманамі. Пераклад быў падрыхтаваны і выдадзены Выдавецкім домам "Медзіна" разам з навуковым калектывам Міжнароднага мусульманскага форуму пад эгідай Духоўнага ўпраўлення мусульман Расійскай Федэрацыі.

"Для нас заўсёды было відавочна, што падтрыманне міжрэлігійнага дыялогу – гэта святы абавязак веруючага чалавека", – адзначыў галоўны рэдактар "Медзіны", адказны сакратар Міжнароднага мусульманскага форуму Дамір Мухетдзінаў. Ён падкрэслівае, што тэкст энцыклікі "Fratelli tutti" "звернуты не толькі да хрысціян, але і да мусульман, і да ўсіх людзей на планеце". Цэнтральная тэма энцыклікі – "культура сустрэчы".




**рэлігійны часопіс**

Часта людзі прыходзяць да Бога, каб Яго прасіць; радзей – каб Яму дзякаваць, а яшчэ радзей – каб у Яго пытацца. Чалавек рэдка задае Пану пытанні, бо баіцца, што Ён укажа на нялёгкі шлях, паставіць пэўныя патрабаванні. І тады чалавек выбірае стан няведання. Адказ Бога – заўсёды канчатковы. Ён у канкрэтнай сітуацыі паказвае адзіны шлях, таму неабходна альбо рашыцца ісці ім, альбо адмовіцца ад яго. Адказ Бога – гэта найчасцей заклік да паслухмянасці, а чалавек гэтага не любіць.

Аднак, маючы перад сабою непраможную перспектыву ўваскрасення, мы можам задаваць Богу любыя пытанні і быць упэўненымі, што Яго адказы маюць на ўвазе наша дабро, пазначаючы дарогу нашага збаўлення.




**беларуская рэдакцыя**

Бенедыкт XVI даў інтэрв'ю італьянскаму "Corriere della sera" з нагоды восьмай гадавіны заканчэння яго пантыфікату, які завяршыўся 28 лютага 2013 года. Ён падкрэсліў, што ў Касцёле "няма двух Папаў", а таксама абвергнуў некаторыя версіі адносна прычын яго адмаўлення ад пасады Біскупа Рыма.

"Некаторыя з маіх сяброў дагэтуль не жадаюць прыняць мой выбар. Маю на ўвазе канспіралагічныя тэорыі, якія ўзніклі пасля яго. Некаторыя казалі, што прычынай стаў скандал "Vatileask", іншыя, што змова гей-лобі, яшчэ іншыя, што справа кансерватыўнага тэолага-лефебрыста Рычарда Уільямсана. Яны не жадаюць паверыць, што выбар я зрабіў свядома. Але маё сумленне чыстае", – прызнаўся Бенедыкт XVI.




**інтэрнэт-партал Гродзенскай дыяцэзіі**

На сайце "Ridero" з'явілася новая кніга Лявона Карповіча "Біблейскія гісторыі Старога Запавету, ілюстраваныя паштовымі маркамі". У 2019 годзе была выдадзена кніга гэтага ж аўтара "Біблейскія гісторыі Новага Запавету, ілюстраваныя паштовымі маркамі".

Новая кніга, як і папярэдняя, адрасавана, перш за ўсё, тым, каго цікавяць Біблія, мастацтва і філатэлія, можа быць цікавай як дарослым, так і дзецям. Яна змяшчае каля 90 артыкулаў і каля 800 ілюстрацый, якія прадстаўляюць вывы твораў вялікіх мастакоў, у тым ліку Мікеланджэла, Рафаэля, Бацічэлі, Далі, Шагала.

**Актуальныя навіны, фота, відэа. Даведайся больш пра жыццё Каталіцкага Касцёла на Гродзеншчыне!**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця**; галоўны рэдактар – **кс. Юрый Марціновіч;**
заснавальнік – **Гродзенская рымска-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання – **1997**; рэгістр. **№1085**; выдавец – **курыя Гродзенскай дыяцэзіі.**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4**; тэл. **(80152) 61-05-37; (8029) 571-30-77** (мтс); e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com**; **http://www.slowo.grodnensis.by.** Тэхнічны рэдактар – Юрый Лавыш.
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»**, ЛП 02330/39 ад 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Палiграфiстаў, 4; нумар заказу 988; тыраж 4700; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты.
Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная.